# ДУБРОЎСКІ

# Н А С Т Р О Й №88

СЬНЕЖАНЬ 2005

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## СЬПЕЦАПЕРАЦЫЯ «ВЫБАРЫ»

Дачакаліся, нарэшце!, мы жаданае пары.

У артыста не вытрымалі нервы. Таму пакумекаўшы так і паваражыўшы гэтак, зьезьдзіўшы ў Алтын Орда -Залатую Арду- па ярлык на княжанне, адначасна гэта быў і слаўны паход у Каносу да аўтарытэта і шэфа ўсіх дыктатараў на абшарах былой савецкай імпэрыі Пуціна- наш Лукашэнка перасунуў выбары зь лета на сакавік.

Справаздача наконт зробленай працы суправаджалася дамовай пра газ. Здаецца, пра газ трэба было дамаўляцца з манапалістам «Газпрамам», але дамова з Пуціным паказвае, хто ў Расеі гаспадар чаго.

Выбары абвешчаны сьціпла, каб не траўмаваць народ цяжкай задачай выбару. Нязвычны да думання люд можа стаміцца ад перадвыбарчай мітусьні. Галасаваць сьвежай галавою за праванялую рыбу, з гледзішча прапагандысаў, лягчэй.

Але паколькі ні пра якіх прэтэндэнтаў ў кіраваных адміністрацыяй прэзідэнта сродках масавай камунікацыі не паведамляецца - акрамя аднаго, вядома, народ па-авечаму пытае тое ж пытанне: а хто, калі не Лукашэнка, то хто? Калі ж скажаш, што такіх прэтэндэнтаў ажно восем:Вайтовіч, Гайдукевіч,Казулін,Лукашэнка, Мілінкевіч, Пазьняк, Скрабец, Фралоў- то пачынаецца абурэнне: чаму я іх не ведаю.

**Калі не Лукашэнка- то Мілінкевіч!!**

Прапагандысцкім дудкам рэжыму -радзіву, тэлевізіі загадана маўчаць пра іншых і прапагандаваць і рэкламаваць гаспадара Беларусі.

Далей, трэба ведаць, што існуе паразіт на шыі народа- г. зв. «ідэалагічная вертыкаль». Гэта яна павінна сьпяваць ката народу./Дарэчы, колькі казённых грошай ідзе на ўтрыманне ў Беларусі шорапнінаў? Якая ад іх народу карысьць?/

Менавіта яна адказвае за насаджэнне культу аднае асобы ў Беларусі, не дазваляе народу знаёміцца з кім-небудзь, акрамя ўжэ знаёмага Аляксандра-Шуры.

Вось чаму народу не паведамляюць пра канкурэнтаў Лукашэнкі.

Вядома, хто не такі затурканы, як работнікі калхозаў, то хто імкнецца нешта ведаць, той слухае замежныя радзівы- мы настойліва раім слухаць радзіва «Свабода», гэта наш філіял у Празе і вушы шчэ нікому не папсаваў- і ведае збольшага, што дзеецца ў Беларусі.

**Перад выбарамі ў Беларусі забаранілі 17 незалежных газет, прынялі без абмеркавання!- тры добрыя сталінскія законы, па якіх кожнага незадаволенага можна надзейна пасадзіць у турму. За год да гэтага ліквідавалі практычна ўсе няўрадавыя арганізацыі. Партыям тэрмінова вынесьлі па папярэджанню- каб не рыпаліся.**

Словам, сьпецаперацыя па кланаванню адзінага чалавека сярод статка вырадкаў і дэгенератаў праведзена грунтоўная.

І ўсё ж сітуацыя не мёртвая. Гэтым разам камуністы,аб”яднаныя грамадзянскія дэмакраты сацыял-дэмакраты, БНФ згуртаваліся і выбралі прэтэндэнтам у кандыдаты **на прэзідэнта беспартыйнага Аляксандра Мілінкевіча, кандыдата фізічных навук, знаўца пяці замежных моваў.**

Ён і мае найбольш падтрымкі і найбольш шанцаў здужаць Лукашэнку. Цяперака ты ведай: Калі не Лукашэнка, то Аляксандр Мілінкевіч.Як народ разумны, то ніякая сьпецаперацыя не паможа.

**Радыё «Свабода»- наш філіял у Празе.**
**Пачынай зранку**
**06.00.- 6140, 7190 кгц ці 612 кгц = 490м**

## РАЗЬНЯ Ў РАКОВІЧАХ

У сьнежні 1944 года Чырвоная Армія дабралася да усходняй Беларусі Перадавым частко́м удалося прарвацца да нашых мясьцін, але гэта былі лакальныя прарывы і багата дзе дзеля вайсковай мэтазгоднасьці бальшавіцкія войскі мусілі адыйсьці назад.
Так здарылася і ў Раковічах. Сьпярша пад ціскам бальшавікоў немцы ўцяклі, а потым, калі рускія адыйшлі зь вёскі, вярнуліся зноў.

Частка жыхароў пакінула вёску разам з чырвонымі, частка засталася.
Немцы вярнуліся адмысловым карным атрадам.Іхняя «кара» была нялюдзкай і бессэнсоўнай. Яны ўрываліся ў хаты, стралялі ў безабаронных людзей, але найбольш рэзалі штыхамі.Літасьці азьвярэлыя ад нацыянал-сацыялізму немцы не ведалі: яны рэзалі старых, дзяцей, жанок.Ад жаху некаторыя нябожчыкі здранцьвелі і, нават забітыя, засталіся стаяць.Такімі іх і знайшлі ацалелыя аднавяскоўцы і родзічы.

Вельмі добра гэтую гісторыю ведае Аляксей Русіновіч з Сіняўкі, наш разумны і дасьведчаны краязнавец. Слухаючы ягоны аповяд нельга стрымаць сьлязіну.

Нажаль, нішто ў Раковічах не расказвае нашчадкам пра трагедыю 1944 года. За пышным баляваннем перамог 45 забыта трагедыя 44 году.Ні абеліску, ні мемарыяльнай шыльды, ні малітвы.

Старыя ў Раковічах, пэўне,любяць Аляксандра Рыгоравіча. Наўрад ці яны ведаюць, што Аляксандр Рыгоравіч вельмі прыязна пахваліў Адольфа Алаізавіча, салдаты- якія салдаты??!- каты якога 62 гады таму люта пазабівалі іхніх свякоў - безабаронных мірных беларусаў.

Трэба быць бязмозглым калекаю, каб падтрымліваць і галасаваць за чалавека, які пахваліў ліхога ворага нашага народу.

## НІХТО Ў ДУБРОВЕ НЕ ХОЧА БЫЦЬ ГАСПАДАРОМ.

З надыходам холаду ў Дуброві натуральна заціх сельскагаспадарчы імпэт. Ніхто не прэ торф на палі, няма і тых куч «арганікі», што былі колісь.
Словам, працы мала.

Каб утрыманне працоўнай сілы было таннейшым усім работнікам філіялу РУП «Гомельэнерга» Дуброва-Агра скарацілі працоўны дзень і працоўны тыдзень. Адпаведна і заробак будзе як агонь у лямпе з прыкручаным кнотам: тлецьме і не сьвяціцьме, але не патухне.

Народ адрэагаваў адмоўна, але з разуменнем і бязвольна.

Канешне, калгаснае начальства засталося на поўнай пайцы, ягоны рабочы час не паменеў і не счэз.

Гэта й выклікае ціхае абурэнне працоўных. Бо яны ж бачаць, што цяжар эканамічных нягод разьмеркаваны вельмі несіметрычна.

Хлопцы!

Так яно й будзе надалей. Камунізм кончыўся, надышоў час натуральнага адбору.Хто не агрызаецца, той прайграе.

А ўвогуле, падзякуйце беларускаму дыктатару за свой філіял.Ён жа вам гаспадара найшоў, раз вы не захацелі ім быць.

Каго ні спытай-ніхто ў Дуброві не хоча быць гаспадаром. Акрамя чужынцаў.
Дык на што наракаць?

## ЛЕПШЫ Ў РАЁНЕ.

Лепшым у раёне тэхнікам-асемянатарам прызнала раённая ўправа сельскай гаспадаркі нашага земляка Кірсанава Аляксандра. І не без падстаў. Не без ягоных намаганняў калгас-філіял спраўна папаўняе свой статак гавяды маладняком.

Прызнанне Аляксандра між найлепшых не было пустой пахвалою, а суправаджалася не богвед якой, але грашовай прэміяй, што заўсёды прыемна і прыдаецца ў гаспадарцы.

Аляксандр ніколі не адмаўляе ў паслугах прыватным гаспадарам, добрасумленна робіць сваю важную справу і за гэта мае павагу аднавяскоўцаў.

Наш народны баявы лісток віншуе Аляксандра Савельевіча з прэміяй, жадае яму здароўя і плёну ў працы.

Народны баявы лісток папракае і ўшчувае загадчыцу тутэйшай ідэалагічнай вертыкалі тав. Шорап Ніну за тое, што не выпусьціла баявога лістка, прысьвечанага працоўнаму дасягненню работніка і зьвяртае ўвагу шаціўкаўскай наменклатуры на няпоўную службовую адпаведнасьць займанай пасадзе тав. Шорап Ніны.

## УДАЛАЕ ПАЛЯВАННЕ.

Не думала-не гадала работніца сувязі Зайцава Галіна, што, набываючы латарэйны білет, яна штосьці выйграе. Але атрымалася так, што прыехаўшы да дачкі ў госьці яна аддала білет зяцю, а той разгарнуў яго і ўбачыў, што білет выйгрышны. Сума была не шалёная, усяго некалькі дзясяткаў беларускіх умоўных зайцоў. Але, пагадзіцеся, не часта ў дзяржавы выйграеш.А тут заяц прыбег да Зайцавай.

## ГОНЯЦЬ У БРСМ.

Мала таго, што ў нас паднявольная тупаватая савецкая школа, дык у гэтай школе праўны рэжым узяў сабе манапольнае права лавіць дзіцячыя душы дзеля сваіх гнюсных мэтаў.

От і ў тутэйшай школцы-і не толькі ў ёй-несамавітыя настаўніцы па кожным званку і па кожнай паперцы кідаюцца да дзяцей з патрабаваннем уступаць у лукашысцкі БРСМ. Уранні яны расказваюць дзецям пра правы дзіцяці, пра правы чалавека, дзе напісана, што ніхто не можа быць прымушаны ўступаць у якую-небудзь арганізацыю ці выходзіць зь яе, а пасьля абеду тут жа плююць на гэтае права катэгарычным патрабаваннем прынесьці фатаграфіі для членскага білету.Калі пытаеш такіх «арганізатараў», чаму яны сьведама парушаюць правы дзяцей,то ў адказ чуеш: «жыць жа трэба».

Рабскі адказ рабоў. Па-іншаму гэта абсалютна роўна «здохні ты сёння, а я заўтра».От гэта і ёсьць крышталёва чысты ўзор фашыстоўскае ідэалогіі. Дык калі гэта «дзяржаўная ідэалогія», то якая ж у нас дзяржава?

Сам жа БРСМ- гэта чыста халуйская дапаможная антыбеларуская арганізацыя лукашызму.Уступаць у яе беларусу можна толькі, каб лепей ведаць ейнае нутро і карыстацца ейнымі рэсурсамі для шкоды рэжыму.

## ПЕРАСЬЛЕД У ШАЦІЛКАХ.

Паволі і ў Шацілках абуджаецца рух супраціву рэжыму.Сьведчаннем гэтаму ёсьць паліцыйны пературс у кватэры аднаго з актывістаў беларускага руху. Замесь шукаючы нар-котыкі паліцыянты шукалі насамрэч друкаваныя матэрыялы і сёе-тое знайшлі. Звычайна ў такіх матэрыялах німа ніякага крыміналу, але ў нас рэжым лічыць незаконным усё, што ім не дазволена.Паліцыянты хацелі шчэ раз прачасаць хату, гэтым разам «шукаючы самагонку», але ім паказалі, што гэта незаконна.

Супрацьпраўна ўварваўшыся ў кватэру іншага актывіста сп. МАсьлюкова Т. паліцыянты забралі фотакапіявальныя апараты, мяркуючы, што на іх сп. Масьлюкоў выробляў тамтэйшы грамадзкі бюлетэнь.Гэта аказалася не так.

Неміласэрным судом добрыя беларусы аштрапаваныя на непрымальныя сумы.

Трэба меркаваць, што рэжыму не ўдасца здушыць агмень свабоды і што ў шарэнгі барацьбітоў з рэжымам стануць новыя рашучыя маладыя людзі

Траістае «рубон!» змагарам з рэжымам.

## МІЛІНКЕВІЧ У ШАЦІЛКАХ.

Пад час сваіх паездак па Гомельскай вобласьці кандыдат ад апазіцыі ў прэзідэнты сп. Аляксандр Мілінкевіч наведаў Шацілкі. Ён размаўляў з людзьмі, цікавіўся іхнімі праблемамі.

Спадара Мілінкевіча суправаджалі сябры і кагэбісты ў споднім. (Зьверху яны былі як людзі.) Задача кагэбістаў была звычайная: генерацыя дыскамфорту і страху, каб людзі баяліся сустракацца і гаманіць з сур"ёзным чалавекам. З гэтай задачай яны часткова справіліся: людзі сапраўды,пабойваліся гэбісцкіх відэакамар.

З другой задачай - ахоўвай магчымага свайго будучага начальніка- яны справіліся пасьпяхова, за што час ад часу маюць падзяку ад Мілінкевіча.

Арганізатары паездкі лічаць, што наведанне Шацілак было не надта ўдалым.

Што ж. Такая ява нашага жыцця.Несвабода...

**Пра Мілінкевіча Аляксандра ды іншых прэтэндэнтаў-рэзервістаў у кандыдаты ты можаш паслухаць па радзіву «Свабода». Мы перадаем з Прагі штодня а 18 гадзіне вечара на частотах 9865 і 11925 кілагерцаў, 34 і 25 сажняў адпаведна.**

*Паслухаеш раз- захочаш шчэ.*
*Міліцыянтам-даістам слухаць у машыне- усяго толькі 612 кілагерцаў, 490 сажняў.Адны гоні. Ну, мо трохі болей...*

## «САВЕЦКАЯ Б.» ПАРАЗІТУЕ НА ПРАЦАЎНІЦАХ.

Му ўжэ пісалі, што работніц сувязі змушаюць пішчом распаўсюджваць г. зв. «прэзідэнцкую» газету Аказваецца, у Менску таксама работніц змушаюць падпісваць праўдамі і крыўдамі багата лішніх асобнікаў таго графаманскага лістка.

І ніхто не заступаецца за работніц, што мусяць траціць свой сьціплы заробак на мільянера Паўла Якубовіча.

## СЛАВЯНСКІ ПАЦАЛУНАК ЮДЫ.

Маскалі любяць разважаць пра славянскасьць і славянства. Самі яны ад часу апошняй заваёвы спраўнымі хлопцамі пад арыфламаю Батыя з Алтын Орда сталі неславянамі і нават для сваіх цэркваў перанялі мусульманскі цюрбан.Пазірніце на г. зв. царкоўныя «макаўкі». І вось абрыдзела мангола-маскоўскаму воўку ляжаць у авеччай шкуры і рашыў ён дзябнуць славян-украінцаў.Перад самым новым годам тамтэйшы караван-сарай, па іншаму Крэмль- абвясьціў Кіеву –старэйшаму брату!!!-, што падымае цану на газ да 230 праклятых дзядзькасэмавых даляраў за 1000м3. Гэта быў адмысловы ўдар. Украйна не была гатовая плаціць такую раптоўную не-славянскую цану і ойкнула.

Ну, дзе ж тут славянскае брацтва? Пустая гэта балбатня!

Як паказаў грубы наезд мангола-маскоўцаў на сваю матку- Кіеў- (памятаеце, маці гарадоў рускіх!)маскоўцы засталіся чыстымі імпер"ялістамі XVII-XIX стагоддзя, калі яны прагна хапалі чужыя землі і абвяшчалі іх «спрадвечна» рускімі.

І газ яны прадаюць не свой, а ўкрадзены ў калоніях- у ненцаў, у ханты- мансійцаў. І алмазы яны забіраюць у якутаў...

Гэты ўрок украінцы вывучаць. Рады дадуць.
А нам яшчэ давядзецца выкручвацца з мангола-маскоўскіх лап усходняга драпежніка. 43 дзядзька-сэмавых даляраў за 1000 кубаметраў трэба шчэ ад-служыць-адрабіць.
Ці расплаціцца натурай. Маскоўцы абсалютна адкрыта кажуць, што **іхняя найпершая мэта-захоп усіх магістраляў (нафта- і газаправодаў, ліній электраперадач,чыгунак і ўсталяванне поўнага кантролю над «блізкім» замежжам.**
І ў еўрапейцаў расплюснуліся вочкі на Расею. Неяк зарана «забыліся» тамтэйшыя палітбосы, што Расея- вavailable ючая імперыя.Усё залагоджвалі Крэмль. А той палічыў, што ўжо досыць акрыяў, каб ашчэрыць зяпу.

У бласлаўлёныя часы «разьвітага» сацыялізму бальшавіцкія прапагандысты не хвалі, што газаправод у Еўропу гэта сродак палітычнага шантажу: «Калі паляцяць «Першынгі» мы перакрыем вентыль.» «Першынгаў» німа, а жаданне прышчаміць ёсьць.
Вось чаму гэтак Масква імкнулася нацкаваць Еўропу на Ўкрайну.Не выйшла!!!
Вось таму

**НАША АПОШНЯЕ СПАДЗЯВАННЕ: МІЛІНКЕВІЧ.**
**UNSERE LETZE HOFFNUNG: MILINKEWITSCH.**

---

Энергетычны крызіс суправаджае нас цягам апошніх 30 год.Пад час араба-ізраільскай вайны ў 70я гады арабы раптоўна скарацілі пастаўку нафты ў Еўропу і ўзьнялі цану.Еўропа дала рады: мадэрнізавала свае заводы і скараціла спажыванне паліва. Гэта пайшло ёй на карысьць. Беларусь жа спадзяецца на расейскі наркотык і амаль нічога не робіць. Плаціцьме натурай?! Тым часам навукоўцы кажуць, што ў XXI стагоддзі «войны пойдуць за рэсурсы». А калі яны былі за нешта іншае?!

---

## ІСТЭРЫЯ Ў ШКОЛІ №10.

16 чысла таго месяца група шацілкаўцаў выйшла з запаленымі сьвечкамі на плошчу, каб выказаць салідарнасьць з палітычнымі вязьнямі ў Беларусі. Між годных людзей была і адна навучэнка. Гэта выклікала пярэпалах у сьпецы ялізаваных і адукацыйных куратніках. На базе школы інтэрнату сьпец-спецыялістамі былі адмыслова праінструктаваныя малодшыя чыны адукацыі наконт «недапушчэння». (Заўважым, пры камуністых было тое ж, а як сталася? Эхе-е-е...) Асабліва, кажуць, шчыравала дырэктарка школы № 10, нейкая Драпеза Людміла. Гэтая педагог груба і непаважліва выказвала свой гнеў адной сваёй вучаніцы якая праявіла высокія гра мадзянскія маральныя якасьці. Драпеза нават патрабавала ад дзяўчыны выбрацца зь ейнай школы.Ого!

Праз Інтэрнэт ды радыё пра гэта тут жа стала ведама паўсьвету і дырэктарцы давялося суняць свой дзяржымордаўскі імпэт.

Шацілкаўцы!Калі ў вас ёсьць дзеці-школьнікі не аддавайце іх туды, дзе працуюць бабы-істэрычкі. Яны не паважаюць грамадзянскіх пачуццяў і нацыянальнай ідэнтычнасьці беларусаў. Яна прыдатная толькі каб ціха сядзець у палатцы побач з Валяй Кавалёвай.(Вы яшчэ памятаеце, што гэта за яна?)

---

Хто ўкраў парася, у таго ў вушах вішчыць.
15 год вішчаць у вушшу ў маскалёў і камуністоідаў Віскулі, бо там пачаўся распад расейскай каланіяльнай імпэрыі. Віншуем усіх з гадавінай распаду СССР. І гэта не канец!!!

---

Віншуем
Кузьмянок Аляксандру
з нараджэннем дачушкі.
Шчасьця і здароўя
абедзьвум жанчынам.

---

Друкарня імя І. Масьціцкага
100 асобн. Як заўсёды.